**СОНЦА:**

Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск—6.21, 18.16, 11.55;
Віцебск—6.11, 18.06, 11.55;
Магілёў—6.10, 18.05, 11.55;
Гомель—6.04, 18.05, 12.01;
Гродна—6.33, 18.33, 12.00;
Брэст—6.36, 18.32, 11.56.

**МЕСЯЦ:**

Першая квадра 12 сакавіка.

**ІМЯНІНЫ**

Герасіма, Васіля, Данілы, Паўла, Ульяны, Якава, Вячаслава, Рыгора; Гертруды, Збігнева.

# ЗВЯЗДА

17 САКАВІКА 1992 г.
аўторак, № 55 (21833)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.


## РОЗГАЛАС

### ЗЯМЛЯ ЧАКАЕ ГАСПАДАРОЎ

БАБРУЙСК (В. Зіноўскі). У Бабруйскі гарвыканкам дасланы рашэнні Глускага, Кіраўскага і Бабруйскага раённых выканаўчых камітэтаў аб выдзяленні гараджанам зямлі для арганізацыі садова-агародных кааператываў. Калі ўлічыць, што сярэдні размер дачнага ці агароднага ўчастка складае зараз прыкладна 10 сотак, то выдзеленай зямлі хопіць для таго, каб амаль 10 тысяч гараджан сталі дачнікамі.




### АЙЧЫНЕ ПАТРЭБНЫ ЗБАВІЦЕЛЬ

Такі, як маршал Жукаў ці цар Пётр І. Хто ім стане? Радок у плакаце, дзе пералічаны расійскія выратавальнікі ўсіх часоў, насупраць цяперашняй даты пазначаны пытальнікам: хто? Далей ідзе паэзія: «Вспомним, братцы, россов славу и пойдем врага разить!» Як бачым, матывы вечныя, як загадка рускай душы: каб было на каго маліцца, за кім ісці ў бой. А без ворагаў калі ж яно было? Пашукаўшы, знойдзеш і зараз.

Ды што далёка шукаць. «Ля руля — юды», — сцвярджае суседні лозунг.

Дзе ўсё адбываецца? Магчыма, такое ж было недзе ў расійскай сталіцы ці глыбінцы. Але мы ўбачылі і плакаты, і вершы, і мноства чырвоных сцягоў, партрэтаў Леніна на галоўнай плошчы Беларусі — плошчы Незалежнасці. У мінулую нядзелю тут сабраўся шматлюдны мітынг, арганізаваны Мінскім гарадскім саветам руху за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць, вядомым сваёй сацыялістычнай накіраванасцю і кіраўніцтвам Віктара Чыкіна.

Фармальнай падставай да правядзення мітынгу сталі ўгодкі з дня правядзення рэферэндуму, арганізаванага кіраўніцтвам былога Саюза ў падтрымку апошняга. Няма Саюза, папаліся на здрадніцтве вярхі той сілы, што цэментавала яго знізу даверху — Кампартыі, — а людзі ўпарта нясуць напаказ учарашнюю атрыбутыку і сімволіку: вярніце тое, што было. І зіхацяць золатам серп і молат на дрэўках сцягоў, і дастае стары, пабіты жыццём сцяганосец насоўку, каб выцерці слязу пры гуках былога гімна: «Саюз непарушны рэспублік свабодных...» І бачацца, бачацца кадры старых кінахронік: слёзы на арыстакратычных тварах наваяўленых савецкіх жабракоў, смяротны жах у вачах учарашняга бацюшкі пры выглядзе абваленых святых купалоў...

Сціскаецца сэрца: было ўсё гэта, было!.. «Вярніце цара!» — было. «Вярніце Сталіна!», — таксама. «Вставай, страна огромная», — пішуць на лозунгах сёння. Але ці ўсе рупяцца ўспомніць, асэнсаваць, што было потым? І што будзе, калі ўся былая краіна ўзнімецца?

Страшна развітвацца з ілюзіямі. Страшна на схіле лепшых сваіх гадоў прызнаць, што сілы пакладзены на алтар не таго ідала, што жыццё ідзе не па табой адпакутаваных, а таму дарагіх табе пуцявінах. „Страшна адысці ад стаўшых тваёю крывёю і тваёю плоцю перакананняў, догмаў. Але мудрасць у тым, каб усё ж разабрацца: а ці не перашкаджаюць яны іншым?

Мудрасць і духоўная сталасць патрэбны і ў адносінах да многіх з тых, хто прыходзіць на плошчу пад чырвонымі — недзяржаўнымі, не асвячонымі сённяшнімі законамі — сцягамі і сімваламі. Стыне кроў, калі згадваеш пра маладзенькіх юнкераў, царскіх дзетак, пабітых сівізною неўтаймоўных дваран, што ляглі пад бальшавіцкімі кулямі...

Няўжо не знойдзем у сваёй гісторыі, у сваім гаротным лёсе тое, што нас яднае?

**На здымках:** фрагменты мітынгу.

**Кар. «Звязды».**
**Фота Аляксандра КУШНЕРА.**



# Калі суверэнітэт Беларусі апынецца ў небяспецы, «правыя» і «левыя» будуць змагацца па адзін бок барыкад

Калі ў некага за межамі Беларусі ўзнікне ідэя стварыць што-небудзь накшталт новага ГКЧП або якімсьці іншым чынам упіхнуць незалежныя краіны ў граніцы былога СССР ці Расійскай імперыі, ён павінен улічыць адну акалічнасць: у нашай рэспубліцы яму давядзецца мець справу не толькі з законна выбранымі органамі ўлады, але і з Антыкрызісным камітэтам, які спецыяльна для падобных выпадкаў створаны ў мінулую суботу.

Якая б бездань ні раздзяляла «правых» і «левых», з якім бы імпэтам ні вяліся палітычныя баі паміж рознымі партыямі і рухамі,— аказалася, ёсць ідэя, што здольна аб'яднаць самых заўзятых радыкалаў і самых рашучых кансерватараў. Ідэя гэтая — суверэнітэт Рэспублікі Беларусь і тая пагроза, якая можа ўзнікнуць для гэтага суверэнітэту па прычыне цяжкапрадказальных працэсаў, што адбываюцца на тэрыторыі былога СССР.

У суботу ў Доме літаратара можна было назіраць карціну, якую нячаста ўдаецца пабачыць: лідэры ўсіх асноўных партый, грамадскіх арганізацый і дзяржаўных органаў сядзелі за адным сталом і цалкам пагаджаліся адзін з адным. Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шушкевіч з лідэрам БНФ З. Пазьняком — па правую руку і старшынёй Сацыял-дэмакратычнай Грамады М. Ткачовым — па левую, магло здацца, забылі пра свае рознагалоссі і гатовы працягнуць адзін аднаму руку падтрымкі і дапамогі.

29 палітычных партый і рухаў, прафсаюзаў, грамадскіх арганізацый і дзяржаўных органаў падтрымалі ідэю, прапанаваную Беларускім згуртаваннем вайскоўцаў. Калі ўлічыць, што ў ліку гэтых 29-ці — кіраўнікі парламента і ўрада, а таксама ключавых міністэрстваў,— можна прыйсці да высновы, што новае аб'яднанне — рэч зусім не другарадная.

Многія сёння задаюць пытанне: ці існуе настолькі сур'ёзная пагроза дзяржаўнасці Беларусі, каб ствараць такі камітэт? На думку С. Шушкевіча, пагроза такая ўзнікае штогадзінна, і ў такой сітуацыі нельга займацца палітычнымі гульнямі. Станіслаў Станіслававіч таксама зазначыў, што ў захапленні ад ідэі, прапанаванай БЗВ, і ахвотна паставіў подпіс пад тэкстам антыкрызіснага пагаднення.

На сходзе выбрана выканаўчая рада Антыкрызіснага камітэта, у склад якой увайшлі прадстаўнікі міністэрстваў унутраных спраў, інфармацыі, замежных спраў, Камітэта дзяржбяспекі, Мінгарсавета, БНФ, БСДГ, свабодных прафсаюзаў, Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Старшынёй Антыкрызіснага камітэта абраны В. Кебіч.

Наўрад ці варта перабольшваць значэнне толькі што ўзнікшага аб'яднання. Зусім відавочна: з'яўленне камітэта ніяк не паўплывае ні на вастрыню палітычнай барацьбы ў рэспубліцы, ні на глыбіню крызісу, які ўсё больш ахоплівае грамадскае і эканамічнае жыццё. І ўсё ж нельга не вітаць яго стварэнне хоць бы таму, што ў самых розных палітычных колах выспела ўсведамленне таго, што ёсць у нашага народа агульныя каштоўнасці, дзеля абароны якіх варта забыць пра крыўды, рознагалоссі, уласныя палітычныя інтарэсы.

Адметны факт: сярод падтрымаўшых ідэю пагаднення няма кіраўнікоў Партыі камуністаў Беларусі, а таксама Беларускай ваеннай акругі. Зусім магчыма, што адносіны да новаўтворанага аб'яднання з боку розных палітычных і дзяржаўных арганізацый стануць своеасаблівым індыкатарам для вызначэння іх стаўлення да дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

**Валянцін ЖДАНКО.**

### КОЖНЫ ДБАЕ ПА-СВОЙМУ

**ГОМЕЛЬ (У. Пернікаў). З дзяржаўнымі сцягамі былога Савецкага Саюза і Беларускай ССР у мінулую нядзелю выйшлі сотні жыхароў абласнога цэнтра на плошчу Паўстання. Тут адбыўся мітынг, арганізаваны рухам «Адзінства і справядлівасць».**

Удзельнікі яго гаварылі аб тым, якую бяду прынёс народу палітычны і эканамічны развал СССР, ганьбілі Вярхоўны Савет рэспублікі за тое, што ён не ўлічыў волю народа, які год назад на рэферэндуме выказаўся за адзінства СССР і прагаласаваў за суверэнітэт рэспублікі. У прынятай рэзалюцыі знайшлі адлюстраванне такія пункты, як правядзенне паўторнага рэферэндуму, дзе кожны чалавек мог бы выказацца па пытанню аб адзінстве Савецкага Саюза. Што ж, кожны дбае аб рэспубліцы па-свойму.

### ШАЛІ ВАГАЮЦЦА...

**МАГІЛЁЎ (А. Санчук). Абласны сацыялагічны цэнтр правёў даследаванне сярод жыхароў горада з мэтай высветліць адносіны насельніцтва да рэферэндуму. Метадам ананімнага анкетавання апытана 647 чалавек. Вынікі наступныя: за правядзенне рэферэндуму выказаліся 32,1 працэнта апытаных, супраць —34,8, а кожны трэці (33 працэнты) яшчэ не зрабіў выбару.**

ІДЗЁМ ДА РЫНКУ

## Квадратныя метры і сацыяльная справядлівасць

**Што такое для чалавека мець дах над галавой, добраўпарадкаваную кватэру—пра гэта лішні раз тлумачыць не трэба. Таму і выклікае павышаную ўвагу сам факт будучага абмеркавання ў Вярхоўным Савеце праекта Закона «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь».**

**Што з гэтай нагоды думаюць спецыялісты! На пытанні карэспандэнта «Звязды» згадзіўся адказаць першы намеснік старшыні Дзяржбуда РБ І. ПЯТРОВІЧ.**

**— Нарэшце канчаткова развеяны міф аб тым, што дзяржава самастойна можа вырашыць жыллёвую праблему. Без прыцягнення сродкаў насельніцтва дабіцца гэтага немагчыма. А які ваш, Іван Іванавіч, пункт погляду?**

— Тое, што дзяржава ўсё ўзваліла на свае плечы, гэта, безумоўна, падыход памылковы. Аднак поўнасцю самаўхіляцца ад дапамогі грамадзянам яна не збіраецца. Напрыклад, па аб'ектах жыллёва-будаўнічых кааператываў, якія распачаты да першага студзеня гэтага года, розніца ў кошце кватэр з-за росту цэн на 50 працэнтаў будзе кампенсавацца за кошт рэспубліканскага бюджэту.

Калі аналізаваць вынікі, скажам, 1990 года, то бачна, што асабліва падзення аб'ёмаў жыллёвага будаўніцтва ўвогуле не было. Затое індывідуальнага жылля ў рэспубліцы здавалася толькі каля 7,5 працэнта ад агульнай колькасці, што ўтрая менш чым у сярэднім па ўсяму былому Саюзу.

**— Але ж вялікім бар'ерам паўстала інфляцыя, рэзкі ўзлёт цэн на будматэрыялы. Будавацца сёння самому — нерэальная мара для многіх і многіх.**

— Згодзен з вамі. А чым можна такім грамадзянам дапамагчы? Па-першае, зніжэннем першапачатковага ўзносу за будучы дом да 10 працэнтаў ад яго кошту. Разглядаецца таксама пытанне аб фіксацыі працэнта платы за банкаўскі крэдыт, аб выдзяленні зямельных участкаў для арганізацый з рознымі формамі ўласнасці, каб яны будавалі і прадавалі дамы і кватэры, ствараючы тым самым рынак жылля і канкурэнцыю.

**— З нядаўняга выступлення Старшыні Саўміна В. Кебіча на сесіі Вярхоўнага Савета можна зразумець, што атрыманне бясплатнага жылля людзям ужо не гарантуецца. Атрымліваецца, што дзяржаўныя кватэры будаваліся за кошт народа, а цяпер мы прапануем людзям выкупляць іх. Як тут наконт сацыяльнай справядлівасці? І яшчэ: у праекце Закона аб прыватызацыі жылля адзначаецца, што такім чынам з'яўляецца свабодны выбар спосабу задавальнення кожным сваіх жыллёвых патрэб. Свабодны выбар для каго — для новых мільянераў?**

— Я сказаў бы, што пытанне пастаўлена не зусім карэктна. «Абдзіралаўка», так сказаць, па сённяшніх цэнах ніяк не прадугледжваецца. Што прапануе праект? Ацэнка існуючага жыллёвага фонду будзе праводзіцца ў цэнах 1991 года, прычым з улікам індэксацыі даходаў. А з тым, што дарагія кватэры змогуць купіць багатыя людзі, відаць, прыдзецца прымірыцца, бо рынавыя адносіны і «справядлівая ўраўнілаўка» ніколі поўнасцю не сastыкуюцца

Дадам, аднак, што будзе ўзводзіцца і менш дарагое жыллё, так званае муніцыпальнае. І людзі з невялікімі даходамі змогуць атрымліваць яго ў адпаведнасці з чаргой на кватэру.

**— У выступленні В. Кебіча тэрмін вяртання крэдыту на набыццё жылля прапануецца падоўжыць да 50 гадоў —і, відаць, нездарма. А калі чалавек стаў беспрацоўным і не зможа яго выплачваць? Атрымліваецца, што праз паўтара года нявыплаты ўзносаў дагавор выкупу жылога памяшкання можа быць скасаваны і чалавек пазбаўляецца права на жыллё? Гэта ж трагедыя!**

— Так, падоўжанне тэрміну разліку за кватэру — гэта рэальны ўлік сённяшняга стану эканомікі і ўзроўню жыцця насельніцтва. А якім будзе ў далейшым лёс тых людзей, хто не зможа выплачваць узносы, на гэта пытанне адказаць, прабачце, не магу — не па сілах. Тут поле дзейнасці для юрыстаў. Па-чалавечы, зразумела, іх шкада, але зноў жа — рынавыя адносіны...

**— Кідаецца, між іншым, у вочы, што грашовая велічыня жыллёвай квоты па астаткаваму кошту і цана выкупляемага па сённяшніх цэнах жылля ніяк не супастаўляюцца. Адкуль браць грошы, каб выплаціць розніцу і набыць кватэру ў поўную ўласнасць?**

— Давайце падлічым. Кошт двухпакаёвай кватэры ў мінулагодніх цэнах складае прыкладна 30 тысяч рублёў. Сям'я з трох чалавек атрымлівае на яе жыллёвую квоту ў размеры 10—12 тысяч. Значыць, каб прыватызаваць кватэру, яе гаспадары павінны выплаціць 18—20 тысяч рублёў. За 25—50 гадоў зрабіць гэта ўпаўне магчыма.

**— Арэндная плата за кватэру цяпер будзе брацца за яе агульную плошчу. Справядліва і тое, што пры вялікіх лішках плата ўзрастае (па прапановах праекта) у 10 разоў.**

**Але ж санітарная норма агульнай плошчы на чалавека (дарэчы, палутарная)— усяго 20 квадратных метраў, гэта ж, па мерках іншых краін,— катухі... Калі ж у нас будуць праектавацца кватэры з «чалавечым метражом»? Праўда, не буду пытацца, хто ў іх зможа жыць,— тут зноў узнікае тэма «справядлівасці» грашовага мяшка.**

— Засяленне ў кватэры ў нашых умовах пакуль адбываецца па формуле $n$-1, гэта значыць, колькасць пакояў на адзін менш колькасці членаў сям'і. У перспектыве пяройдзем да формулы $n = 1$ і нават $n + 1$, калі адзін пакой будзе нават «лішнім».

Што ўвогуле можна сказаць аб праекце Закона аб прыватызацыі жыллёвага фонду? Абсалютна справядлівым (асабліва ў нашым сацыялістычным, ураўняльным разуменні справядлівасці) такі дакумент стварыць проста немагчыма. Аднак ён адлюстроўвае рынавыя падыходы.

**Гутарыў Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

## «Больш звяртацца няма да каго»,—

### сцвярджаюць у пісьмах, што ідуць на імя Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. С. ШУШКЕВІЧА, тыя, хто страціў надзею знайсці параду і падтрымку на месцы

**Аб чым толькі людзі не пішуць кіраўніку рэспублікі! Даюць, як ім здаецца, надта каштоўныя парады і выказваюць незадаволенасць, прапаноўваюць цэлыя праграмы выйсця з крызіснага становішча і крытыкуюць Старшыню за нерашучасць.**

**Але калі больш дэталёва аналізуеш пошту, прыходзіш да высновы: у большасці выпадкаў гэтыя пісьмы — крык душы. Людзі, стаміўшыся ад абыякавасці і раўнадушша мясцовых улад, шукаюць паратунку на «самым версе». Яны шчыра разлічваюць на тое, што Старшыня Вярхоўнага Савета іх праблему абавязкова вырашыць.**

**Давайце ўчытаемся ў гэтыя пісьмы. У іх — наша сённяшняе жыццё, якое яно ёсць. З яго неўладкаванасцю і шэрасцю, абыякавасцю і бязглуздзіцамі.**

Жыхары дома 22 па вуліцы Палявой Ленінскага раёна горада Мінска просяць вас разабрацца ў прычынах невыканання комплекснага капітальнага рамонту дома, 1938 года пабудовы. Раней ён належыў КЭЧ Мінскага гарнізона, а ў 1989 годзе перададзены Ленінскаму райвыканкому, туды ж пералічаны і грошы для капрамонту.

Але яго так і не было. Дом тым часам прыйшоў у заняпад: струхнелі рамы, перагародкі, падлога, абвальваецца столь, нікуды не вартыя каналізацыя, газавае абсталяванне. Санэпідэмстанцыя дала заключэнне аб павышанай вільготнасці ў кватэрах. Як, скажыце, жыць тут дзецям, хворым, састарэлым?

Наперадзе — прыватызацыя жылля. Што нас чакае? Стукаемся ў выканком, звяртаемся да дэпутатаў — ніхто не чуе. Больш звяртацца, акрамя вас, няма да каго.

**В. НАГАЧОЎ,**
**Г. НАГАЧОЎ,**
**Г. ЗАЛІМСКАЯ,**
**У. ЗАЛІМСКІ,**
**Ж. СІДАРЭНКА.**
**Усяго 56 подпісаў.**

***

Нас палохаюць голадам, а чаму не даюць самім сябе накарміць? Зямлю калектыўных гаспадарак трэба тэрмінова раздаць сялянам бясплатна і ў вечнае карыстанне, таму што за 73 гады таталітарнай эпохі яны яе акупілі сваімі потам і кроўю, працуючы задарма, за нішчымныя палачкі, рвучы на калгасных палетках жылы.

Зараз трэба выдзеліць насенны фонд, каб людзі засеялі свае кавалкі. Патрэбна пастанова, на аснове якой сяляне заключалі б з адміністрацыяй дагавор на выкарыстанне тэхнікі. Хопіць кланяцца старшыні, час распрамляць селяніну свае плечы!

**А. ЛОБУДЗЕЎ,**
**Гомель.**

***

Былая партнаменклатура скрытна перасела ў кіруючыя крэслы Саветаў. Таму з такой цяжкасцю прымаюцца дэмакратычныя законы. Але і яны сабатуюцца выканаўчай уладай на месцах, якую прадстаўляе тая ж непатапляльная гвардыя...

І ніякім чынам яе, аказваецца, з гэтых месцаў не згоніш. Вось і на гэтай сесіі дэпутаты дружна прагаласавалі супраць уключэння ў павестку дня абмеркавання Закона аб выбарах старшынь мясцовых Саветаў.

У масах развязана агітацыя супраць СНД, за аднаўленне СССР. Плануецца рэанімаваць З'езд народных дэпутатаў СССР. Гэта змова супраць нашага суверэнітэту! Трэба супрацьпаставіць брудному паклёпу наменклатуры слова праўды. адкрыць народу вочы. Не забывайцеся: згалелых і азлобленых людзей лёгка падштурхнуць на любую авантуру.

У такіх умовах, Станіслаў Станіслававіч, адзіны выхад — аб'яднаць усе здаровыя сілы рэспублікі па яе выратаванню. Гэта можна зрабіць на базе партыі народнай згоды, што зараз ствараецца. Далей манеўраваць нельга: цяперашні парламент і ўрад блакіруюць пераход да рынку, а значыць, вядуць да катастрофы.

**Л. МАРТУЛЁЎ,**
**Мінск.**

***

Я з сям'ёй пражывала ў Салігорску па вуліцы Чыгуначнай, 74 у прыватным доме. Дом гэты знеслі і ў 1991 годзе мне далі новую кватэру. Згодна з пастановай Саўміна рэспублікі ад 22 лютага 1991 года, я маю права бязвыплатна атрымаць кватэру ў асабістую ўласнасць, калі не атрымала грашовай кампенсацыі. Але мне чыняць перашкоды.

Грузавы аўтапарк № 3, які будуе на месцы майго дома жыллё, без майго ведама і згоды пералічыў на маё прозвішча ў Цэнтральную ашчадную касу кошт знесенага дома — 8.447 рублёў. І цяпер, вядома, мне адмаўляюць у бязвыплатнай перадачы кватэры.

Я звярталася да раённага пракурора з просьбай аднавіць справядлівасць (грошай я не атрымоўваю), але мне адмаўляюць.

Атрымліваецца, што праўда таго, у каго больш правоў?

**В. БЯЛЬКО,**
**Салігорск.**

***

Хочам выказаць вялікую ўдзячнасць дырэктару Аршанскага льнокамбіната Г. Кухарэнку. Усё жыццё мы прапрацавалі на гэтым прадпрыемстве, аддалі яму здароўе, лепшыя гады. І калі пайшлі на заслужаны адпачынак — пра нас не забыліся. Кожнаму выплацілі па 1.000 рублёў, выдалі купоны, асобныя тавары...

Станіслаў Станіслававіч, такім людзям, як наш дырэктар, трэба выдаваць узнагароды за іх чалавечнасць!

**М. ІВАНОВА,**
**Г. АРЛОЎСКАЯ,**
**З. БЫКАВА і іншыя.**

***

Звяртаемся да вас, як да апошняй інстанцыі. Дзеці, што наведваюць садзік ПМК-9 трэста «Салігорскводбуда», у хуткім часе могуць апынуцца на вуліцы, так што няма сродкаў на іх утрыманне. Прасілі дапамагчы старшыню пасялковага Савета Лапікава В., раённых і абласных дэпутатаў, старшыню райвыканкома Махлая А., пісалі хадайніцтвы ў РАНА, аблвыканком, у Вярхоўны Савет — ніхто не працягнуў руку дапамогі.

Райвыканком абавязаў даплачваць за ўтрыманне дзяцей тыя ведамствы, дзе працуюць іх бацькі. Але такія арганізацыі, як РКБА, камбінат грамадскага харчавання, не змаглі падпісаць дагавор — самі банкруты.

Між тым, начальнік ПМК-9 А. Віктаровіч выдаў загад аб закрыцці дзіцячага садзіка, калі дагавор не падпішуць усе без выключэння кіраўнікі. Не хапае 150 тысяч рублёў, ад іх зараз залежыць лёс дзяцей, іх бацькоў, работнікаў сада.

Няўжо нашы дзеці нікому не патрэбны?

**Усяго каля 100 подпісаў.**

***

Хіба не ганьба, што падвозчыца кармоў на ферме атрымоўвае больш за настаўніка?

Пры панскай Польшчы ў маёй бабулі жыў на кватэры настаўнік пачатковых класаў. Дык вось, за сваю зарплату ён мог купіць карову, і таму яго паважалі і здымалі пры сустрэчы шапку. Гэта быў самы лепшы прыклад, каб добра вучыцца, імкнуцца стаць адукаваным чалавекам.

Зараз у нас любы лайдак жыве ледзь не лепш, чым настаўнік. Якія тут могуць быць стымулы да адукацыі! Вы, Станіслаў Станіслававіч, як былы педагог ВНУ, павінны з гэтым згадзіцца.

Дзе ўзяць грошы на павелічэнне зарплаты? А навошта гэтакія апараты ў Міністэрстве асветы, РАНА? Навошта ў школах ваенныя кіраўнікі? Навошта ў сярэдніх школах, дзе менш за 100 вучняў, арганізатары, важатыя, дворнікі, гардэробшчыкі і г. д. Ёсць кіраўнікі грамадска карыснай працы — няхай і наводзяць з дзецьмі парадак. Чым не выхаванне?

Тое ж тычыцца і саміх гаспадарак, сельскіх Саветаў. Ні ў адной краіне няма такой гіганцкай бюракратычнай праслойкі, як у нас.

А плачам, дзе ўзяць грошы.

**А. ТРУБІН,**
**Драгічын.**

**Пісьмы да друку падрыхтавала Людміла ДРАЗДОВА.**



### СУСТРЭЧА Ў ВІСКУЛЯХ

14 сакавіка гэтага года ва ўрадавай рэзідэнцыі «Віскулі» па ініцыятыве беларускага боку адбылася сустрэча Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Ф. Кебіча з прэм'ер-міністрам Рэспублікі Польшча Я. Альшэўскім. У ёй прынялі ўдзел міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанка, Старшыня Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па знешнеэканамічных сувязях В. Радкевіч, кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. Каўко, а таксама В. Уладарчык, кіраўнік Упраўлення справамі Савета Міністраў Рэспублікі Польшча, Е. Макарчык, дзяржаўны сакратар МУС Рэспублікі Польшча.

У ходзе перагавораў, якія прайшлі ў дружалюбнай і канструктыўнай абстаноўцы, бакі прадметна абмеркавалі шырокае кола пытанняў, звязаных з забеспячэннем транзіту беларускіх грузаў праз польскі порт Гдыня, развіццём гандлёва-эканамічных сувязей паміж дзвюма краінамі, стварэннем сумеснага камерцыйнага банка, адкрыццё новых пагранічных пераходаў на беларуска-польскай граніцы, супрацоўніцтвам у галіне абароны правоў нацыянальных меншасцей, праблемамі барацьбы са злачыннасцю, абмеркавалі перспектывы развіцця двухбаковых сувязей.

Дасягнута дамоўленасць, што па шэрагу пытанняў, якія з'яўляліся прадметам перагавораў, у самы бліжэйшы час будуць падпісаны двухбаковыя пагадненні і пратаколы.

Я. Альшэўскі запрасіў В. Кебіча наведаць Рэспубліку Польшча з афіцыяльным візітам у красавіку гэтага года. Запрашэнне было з удзячнасцю прынята.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

### ГОМЕЛЬСКІЯ ДЗЕЦІ НА КУРОРТАХ ПОЎДНЯ

Каля трохсот навучэнцаў дзвюх гомельскіх школ разам са сваімі настаўнікамі выехалі на аздараўленне ў санаторыі Малдовы. На працягу месяца дзеці будуць адпачываць, не спыняючы заняткаў. У бліжэйшыя дні па бясплатных пуцёўках абласнога савета прафсаюзаў у лепшыя здраўніцы Адлера, Геленджыка, Анапы, іншых курортаў поўдня, а таксама ў турыстычны комплекс «Нарач» паедуць яшчэ больш за тысячу гомельскіх школьнікаў.

**В. ЦЮКША.**

